ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

**№ 51** (2401) 22 снежня 1994 г. Выдаецца з 1955 г.
Цана 40 рублёў.

*Іван ЧЫГРЫНАЎ: "УСЁ ПАЧАЛОСЯ ДАЎНО-ДАЎНО"*

## СТОМЛЕНЫ ЧАЛАВЕК, ЯКОМУ ЦІКАВА ЖЫЦЬ



**Гутарка з народным пісьменнікам Беларусі Іванам Чыгрынавым адбывалася напярэдадні ягонага 60-годдзя. Наш чытач добра ведае пісьменніка перша-наперш як аўтара раманаў "Плач перапёлкі", "Апраўданне крыві", сцэнарыя шматсерыйнага тэлефільма "Руіны страляюць..."**

**У апошні час Іван Чыгрынаў надае асаблівую ўвагу ў сваёй творчасці гістарычным тэмам. Так, у тэатры імя Янкі Купалы з поспехам ідзе прысвечаны Рагнедзе спектакль "Звон -- не малітва" па ягонай п'есе. Таму наша з ім гутарка не магла не крануць праблем гісторыі -- далёкай і блізкай.**

*-- Іван Гаўрылавіч, вы -- пісьменнік. У той жа час вы ўзначальваеце Рэспубліканскі фонд культуры, рэдагуеце часопіс "Спадчына". Як вас хапае на ўсё гэта?*

-- Яно то ўжо і не дужа хапае. Нестае і часу, і сіл. Але ж жыццё такое, што вымагае ад кожнага свядомага чалавека канструктыўнай дзейнасці. Мы ж сёння будуем сваю дзяржаву, выходзім на нацыянальныя палеткі, працягваем развіваць культуру. Гэта толькі некаторым палітыканам здаецца, што менавіта цяпер пачынаецца адраджэнне нашай культуры. На самай справе ўсё пачалося даўно-даўно. Былі часы больш ці менш спрыяльныя для Беларусі. Калісьці ж і законы пісаліся на нашай мове, і нашы харугвы бітвы выйгравалі. Я шмат займаюся гісторыяй. Таму магу сказаць, што нашыя продкі і працавалі добра, і думалі пра лёс, пра будучыню нашай зямлі, пра людзей, якія будуць жыць на ёй. Сёння мы працягваем развіваць тыя традыцыі ў новых формах. Я вельмі не люблю, калі слова "адраджэнне" ўжываюць без удакладнення. Нельга, каб маладыя людзі лічылі, што адраджэнне пачалося з іх. На Беларусі шмат разумных і трапяткіх людзей, якія хвараюць за нацыянальную ідэю. Так што і жыць будзем, і працаваць будзем. Ад гэтага адмаўляцца сёння немагчыма. Таму павінна стаць сілаў і на тое, і на тое. Толькі шкада, што некаторым даводзіцца працаваць цераз сілу, а іншыя з гарачымі вачыма крычаць лозунгі ў паветра, а на самай справе не паважаюць ні гісторыю, ні людзей, якія яе рабілі.

*-- Мне здаецца, што, каб паважаць гісторыю, яе, па-першае, трэба ведаць...*

-- Гэта праўда. Менавіта дзеля таго была створана "Спадчына". Ведаеце, такі часопіс быў маёй марай. Яшчэ ў часы працы ў "Полымі" мы разам з Янкам Скрыганам, Іванам Пташнікавым распачалі друкаваць у часопісе старонкі нашай Беларускай энцыклапедыі, шмат іншых матэрыялаў па гісторыі Беларусі. На нас тады час ад часу стукалі кулакамі па стале, выклікалі ў кабінеты. Але мы працягвалі знаёміць беларусаў з іхняй гісторыяй. Яны ж вучылі сваю гісторыю па расійскіх дапаможніках. Якая роля ў іх адводзілася Беларусі, усе ведаюць. Калі ў часопісе мы пачыналі гаварыць пра Вялікае Княства Літоўскае, колькі было гвалту! Нас аб'яўлялі амаль што ворагамі, нацыяналістамі. І тым не менш з "Полымя" ў значнай ступені пачалося адкрыццё гісторыі для беларусаў. Пазней я ўжо ўвабраўся ў сілы, стаў пісьменнікам, выйшаў на Фонд культуры, які і дапамог заснаваць часопіс "Спадчына". Першыя ягоныя нумары былі танюсенькія. Гэта цяпер ён і патаўсцеў, і папрыгажэў.

Зрабіў часопіс ужо шмат. Паколькі гістарычных падручнікаў у нас амаль няма, у школах і ў інстытутах гісторыю вучаць па матэрыялах "Спадчыны". Так што сілы ёй аддаюцца недарма. І я задаволены сваім часопісам.

*-- Іван Гаўрылавіч, сёння часта спекулююць на гістарычных падзеях. Сапраўды, даволі цяжка пазбегнуць у публікацыях часопіса нейкіх далікатных момантаў, не пакрыўдзіць нейкую краіну, народ...*

-- Так, такія моманты ёсць. Каб іх пазбегнуць, трэба быць далікатным рэдактарам. Ёсць шмат экстрэмісцкіх матэрыялаў. Але я давяраю сваім супрацоўнікам. Калі раней я быў вымушаны пільнаваць кожнае слова, то цяпер ад мяне патрабуецца толькі стратэгічны падыход да тэм, матэрыялаў, якія з'яўляюцца ў часопісе.

За тыя гады, што выдаецца "Спадчына", калектыў рэдакцыі прайшоў вялікую школу далікатнасці. Ведаеце, трэба вучыцца адрозніваць гісторыю і палітыку. Калі ўсвядоміш гэта, ёсць надзея, што часопіс атрымаецца і далікатным, і прыгожым.

*-- Усе вашыя творы так ці гэтак звязаны з гісторыяй. Выданне гістарычнага часопіса, мабыць, яшчэ больш наблізіла вашу творчасць да гісторыі?*

-- Так. Я выйшаў на новую асабістую плоскасць у сваёй творчасці. Я напісаў шмат гістарычных п'ес.

(Заканчэнне на 7-й стар.).




**Ставяцца да беларускай мовы ў нашай Беларусі сёння горш, чым год назад, пачынаючы ад самога Прэзідэнта, які на кожным кроку выказваецца аб ёй, мякка кажучы, грэбліва, і канчаючы Славянскім саборам (СС) "Белая Русь", які адкрыта патрабуе толькі рускіх школ і, прынамсі, дзяржаўнага "двуязычия". Можна было б стрываць, каб так цкавалі нашу мову толькі рускія, на жаль, ці не часцей за ўсё яе па-хамску абражаюць самі ж беларусы.**

**Вядома, яшчэ кволыя сілы абаронцаў роднага слова, беларушчыны. Але яны ёсць, яны праяўляюць грамадзянскую мужнасць і, нягледзячы на злоснае сіпенне натоўпу, візгат "патриотической" прэсы, выступаюць з адкрытым забралам. Цешыць тое, што шэрагі іх пашыраюцца і дужэюць, убіраючы ў сябе маладыя свядомыя парасткі.**

**Таму нярэдка падобныя пікеты і дэманстрацыі можна бачыць не толькі ў сталіцы, але і ў іншых гарадах краіны. А на гэтым здымку вы бачыце бацькоў і дзяцей беларускамоўных школ і класаў, выкладчыкаў, якія прыйшлі на плошчу Незалежнасці, да будынка Мінскага гарсавета. Акцыю арганізавалі сябры Рэспубліканскага бацькоўскага камітэта "За вольны выбар мовы навучання". Мэта акцыі -- спыніць дыскрымінацыю беларускай мовы з боку вярхоўных улад, абараніць яе, не даць затаптаць, здратаваць ніву беларушчыны.**

**Тым, хто падтрымаў акцыю пратэсту, -- гэта баліць. Будзем мець надзею, што заўтра іх стане больш.**

**Ян ГІЛУЦЁВІЧ.**
**Фота Віктара СТАВЕРА.**

### НОВЫ ФАКУЛЬТЭТ У ПЕДАГАГІЧНЫМ УНІВЕРСІТЭЦЕ

## НА МЯЖЫ САМАВЫЖЫВАННЯ

Чым можна здзівіць нашых замежных гасцей, турыстаў, якія наведваюць беларускую сталіцу? Якія адметныя, менавіта беларускія сувеніры і вырабы народных майстроў яны могуць набыць у Мінску? Уздоўж праспекта імя Ф. Скарыны стракацяць аднолькавыя гандлёвыя будкі-"камкі", перапоўненыя заморскай, не лепшай якасці прадукцыяй. Акрамя крамы "Паўлінка", дзе прадаюцца стандартныя работы двух-трох прадпрыемстваў беларускіх народных промыслаў са звыклымі лялечкамі, штампаванымі шкатулкамі, больш няма ў цэнтры Мінска крамаў з адметнымі нацыянальнымі вырабамі і сувенірамі. Чаму? Ды найперш таму, што не было да нядаўняга часу ў Беларусі вышэйшай навучальнай установы, дзе б вялася падрыхтоўка спецыялістаў па народных рамёствах, майстроў і знаўцаў народнай творчасці, навукоўцаў, будучых даследчыкаў у гэтай галіне.

Факультэт народнай творчасці, які ў сёлетнім навучальным годзе пачаў працаваць у Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце, -- першая пастаўка. Узначаліў факультэт Аляксей Рагуля, прафесар, загадчык кафедры тэорыі і гісторыі культуры Белдзяржуніверсітэта.

-- Факультэт народнай культуры, -- расказаў Аляксей Уладзіміравіч, -- створаны ў 1993 годзе пры гэтай кафедры. На факультэце ёсць такія аддзяленні: фальклорнага мастацтва, народных рамёстваў і фізічнай культуры. Адразу прадбачу пытанне -- чаму тут і фізічная культура.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ПРЭЗІДЭНЦКАЯ "ВЕРТЫКАЛЬ"*

**Прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка завяршыў перабудову мясцовай улады. Так званая прэзідэнцкая "вертыкаль" сканструявана: абраны старшынямі абласных выканаўчых Саветаў людзі, якіх хацеў убачыць у гэтым крэсле А. Лукашэнка. Прэзідэнт дзеля гэтага сам пабываў у кожнай вобласці, дзе прыняў удзел у сесіях абласных Саветаў. Па-рознаму сустракалі людзі "выбранага народам Прэзідэнта". У Гродне Прэзідэнту давялося выйсці да людзей, што сабраліся перад будынкам аблсавета з лозунгамі: "Не -- жабрацтву народа!", "Не дазволім манкуртам кіраваць намі!", "Лукашэнка! Чаму вы зневажаеце беларускую мову!" і іншымі. Некалькі хвілін Прэзідэнту (на здымку) давялося "объясняться" са сваім народам.**



*ЗА ВЫЖЫВАННЕ*

## ЗВАРОТ ПРАФСАЮЗАЎ

**Прэзідыум Савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі звярнуўся да прафсаюзных арганізацый і працоўных калектываў.**

**У звароце гаворыцца, што антыкрызісная праграма выконваецца аднабока: не ствараюцца ўмовы для ўздыму вытворчасці, у бядотным становішчы апынуліся навука, адукацыя, ахова здароўя, зніжаецца цана добрасумленнай прадукцыйнай працы. Па сутнасці страціла ўсякі сэнс мінімальная заработная плата. Цяпер яе размер пакрывае менш чым 10 працэнтаў неабходных расходаў чалавека на жыццё. Значна ніжэйшай за ўзровень мінімальнага спажывецкага бюджэту аказалася сярэдняя зарплата ў народнай гаспадарцы. Чалавек-працаўнік фактычна не можа пракарміць нават сябе.**

**ФПБ адзначае, што ўведзеныя ў апошнія дні свабодныя цэны на асноўныя прадукты харчавання і аб'яўленае ўрадам павышэнне тарыфаў на жыллё ставяць на мяжу фізічнага выжывання тых, хто жыве на працоўныя даходы. У вытворчых калектывах нарастае хваля незадавальнення і пратэсту. Таму прафсаюзы прапануюць правесці сходы, мітынгі і іншыя масавыя акцыі супраць катастрафічнага зніжэння жыццёвага ўзроўню народа.**

*ДЭМАКРАТЫЯ*

## ІНЦЫДЭНТ У ЛІДЗЕ

**Актывісты БНФ і БЗВ правялі пікетаванне адной з воінскіх часцей Ліды пад лозунгамі: "Расія -- рукі прэч ад Чэчні" і "Афіцэры Расіі, не спяшайцеся ў Чэчню".**

**Прыбыўшым нарадам міліцыі былі затрыманы і адпраўлены ва ўчастак кіраўнік Лідскай рады БНФ Станіслаў Суднік, камандзір Лідскай харугвы БЗВ Іван Гроз, іншыя актывісты гэтых арганізацый.**

*ПЕРАКЛАДЧЫК "НОВАЙ ЗЯМЛІ"*



**Перакладчык беларускай літаратуры на польскую мову Чэслаў СЕНЮХ нарадзіўся ў 1930 годзе ў Любчы, на Гродзеншчыне. Бацькі ведалі польскую, украінскую і беларускую мовы і любоў да іх выхавалі ў сына.**

**Свой першы пераклад Чэслаў Сенюх зрабіў у пачатку дзевяностых гадоў. Гэта быў "Прарок" Я.Купалы. Потым былі "Хуткі Нёман" Я.Брыля, "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" У. Караткевіча, "Аблава" В.Быкава, творы М.Танка, В.Зуёнка, У.Арлова. І вось, нарэшце, "Новая зямля". Праца складаная не толькі па аб'ёму. Бо трэба ўмець перадаць асаблівасці аўтарскай мовы Коласа, яе каларыт, народнасць.**

*ВАКОЛ ПАДЗЕЙ У ЧЭЧНІ*

## ЗАЯВА МЕЧАСЛАВА ГРЫБА

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М. Грыб зрабіў афіцыйную заяву для прэсы аб сітуацыі ў Чэчні.**

**"Тое, што адбываецца ў апошнія дні вакол Грознага, -- гэта, і тут няма ніякіх сумненняў, унутраная справа Расіі. Ніхто не мае права ўмешвацца ва ўнутраныя справы суверэннай дзяржавы. Разам з тым шчыра перакананы, што нават такія складаныя, крызісныя сітуацыі, як сёння ў Чэчні, можна і трэба вырашаць без танкаў і чалавечых ахвяр. Лепш, зразумела ж, было не запускаць праблему. Але ўжо калі яна перарасла ў канфлікт, палітыкам і ваенным трэба не забываць: стол перагавораў мацней, хутчэй, больш надзейна, чым танкавая браня, забяспечвае прыход згоды, міру".**

## БНФ ПАДТРЫМАЎ ДУДАЕВА

**Сойм БНФ "Адраджэнне" прыняў ліст да прэзідэнта Чэчні, у якім выказаў Джахару Дудаеву і ўсяму чэчэнскаму народу "рашучую падтрымку і захапленне гераічнай барацьбой Чэчні за свабоду і нацыянальную годнасць".**

**"Мы абураны двудушнай, цынічнай, бязлітаснай палітыкай Масквы, якая ўсімі сродкамі перашкаджае заваёве незалежнасці дзесяткамі заняволеных царскай Расіяй народаў, -- сказана ў дакуменце. -- Палітыка Масквы -- гэта палітыка этнацыду, аб чым красамоўна сведчыць і ваш, і наш гістарычны вопыт. Мы абураны абыякавасцю, з якой міжнародная супольнасць успрымае непрыхаваны дзяржаўны разбой, што праводзіцца маскоўскімі палітыкамі на ўсіх межах Расійскай Федэрацыі".**

*ЖЫЦЦЁ ПАСЛЯ ЧАРНОБЫЛЯ*

## ПСІХАЛАГІЧНАЯ ДАПАМОГА

**На Гомельшчыне ствараецца псіхалагічная служба, закліканая аказваць дапамогу жыхарам вобласці, якія пацярпелі ў выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС.**

**Ліквідаваць дэфіцыт прафесіянальных псіхолагаў вырашылі сумесна Гомельскі дзяржаўны і Пізанскі (Італія) універсітэты.**

*СУМНАЯ СТАТЫСТЫКА*

## НА 12-м МЕСЦЫ

**За 1992--1994 гады колькасць работнікаў навуковай сферы зменшылася на 25,8 тысячы чалавек, або 34,4 працэнта да ўзроўню 1991 года.**

**Страта ж аднаго спецыяліста, па сусветных расцэнках, каштуе 400--500 тысяч долараў. Колькасць сродкаў, выдзяляемых на навуку, у апошнія гады змяншалася штогод у два разы. Навукаёмістасць нацыянальнага даходу зменшылася з 3,9 працэнта ў 1990 годзе да 1,1 працэнта ў 1992 годзе, і гэта тэндэнцыя працягваецца па сённяшні дзень. Што ж датычыць аплаты працы навуковых работнікаў, то ўжо ў мінулым годзе яна знаходзілася на 12-м месцы па народнай гаспадарцы і прыраўноўвалася да працы работнікаў камунальнай гаспадаркі.**

*ЛІСТ ДА ГЕНЕРАЛЬНАГА ПРАКУРОРА*

## ХТО АБАРОНІЦЬ СПАРТСМЕНАЎ?

**Бяспека выдатных беларускіх атлетаў выклікае сёння сур'ёзныя апасенні. Зусім нядаўна былі абрабаваны кватэры алімпійскіх чэмпіёнаў Марыны Лобач, Віталя Шчэрбы. Абрабавалі трохразовага чэмпіёна Еўропы Віталя Песняка. Украдзены асабістыя аўтамабілі шасціразовага чэмпіёна свету Ігара Жалязоўскага, трохразовай алімпійскай чэмпіёнкі Таццяны Самусенка. 30 лістапада ў Мінску быў па-зверску забіты кансультант Камітэта па спорту, бацька двух малалетніх дзяцей Ігар Пандашоў.**

**Група вядомых спартсменаў рэспублікі -- алімпійскія чэмпіёны Валерый Шарый, Уладзімір Камінскі, Антаніна Кошаль, прэзідэнт Саюза спартсменаў Беларусі Марыя Іткіна накіравалі пісьмо-пратэст Генеральнаму пракурору рэспублікі, міністру ўнутраных спраў, памочніку прэзідэнта па асобых даручэннях з патрабаваннем разабрацца па ўсіх фактах насілля і прыняць меры па забеспячэнню бяспекі спартсменаў. У адваротным выпадку, гаворыцца ў пісьме, "спартсмены рэспублікі могуць самі пастаяць за свой гонар і годнасць".**

*ДЭТЭКТЫЎ*

## ТАЙНЫ "МАНЕТНЫ ДВОР"

**10 мільёнаў фальшывых долараў планавалася надрукаваць у Мінску. Падпольны "манетны двор" ужо быў практычна гатовы да работы, але яго раскрылі мінскія міліцыянеры. След вядзе ў Інстытут агульнай і неарганічнай хіміі, дзе быў пакладзены пачатак арганізацыі і друкавання фальшывых грошай.**

**На Ваўкавыскім заводзе ліцейнага абсталявання зусім афіцыйна быў выраблены прэс для друкавання, на мінскай картаграфічнай фабрыцы набыта алюмініева-медная пласціна...**

**Друкаваць меркавалася стодоларавыя купюры. Збываць іх планавалася ў блізкім замежжы. Адзін долар "аптавікам" збіраліся здаваць за 50 цэнтаў.**

**Эксперты, якія агледзелі падпольнае друкарскае абсталяванне, зрабілі вывад, што якасць купюр была б даволі высокай і мала чым адрознівалася б ад арыгінала.**

*МІЖНАРОДНЫЯ ВЫСТАЎКІ*



**Больш за 50 кампаній і прадпрыемстваў далёкага і блізкага замежжа прадстаўлялі сваю прадукцыю на выстаўцы "Гастраномія і Бюро-9", якая прайшла ў Мінску. Тут дэманстраваліся офісная мэбля, халадзільнае абсталяванне, напіткі, салодкія і іншыя прадукты.**

**На выстаўцы ў Гандлёва-прамысловай палаце адну з самых вялікіх плошчаў займала экспазіцыя беларускіх хлебазаводаў (на здымку). Гаспадары гасцінна запрашалі наведвальнікаў і гасцей пакаштаваць свае вырабы.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

ФІЛІЯЛ "Internacional House" ("Міжнародны дом") адкрыты ў Мінску. Тут займуцца выкладаннем англійскай мовы. Навучэнцамі яго сталі больш за 300 студэнтаў, школьнікаў і дарослых. Відаць, неўзабаве філіялы "Міжнароднага дому" адкрыюцца ў Віцебску і Гомелі.

ПАКАРАНЫ на 7 сутак пазбаўлення волі машыніст Чацвёртага рудаўпраўлення "Беларуськалія", арыштаваны за арганізацыю шэсця і мітынгу пад лозунгам: "Не -- рэпрэсіям у Беларусі!" Матыў рашэння суда: гарадскія ўлады забаранілі на цэнтральнай плошчы Салігорска правядзенне падобных акцый.

У БЯРОЗАЎСКІМ раёне на Брэстчыне ў 16 разоў у параўнанні з 1993 годам узрасло захворванне на сіфіліс. Узрост захварэўшых -- ад 20 да 47 год. Гэта пераважна беспрацоўныя, камерсанты. Узрасла колькасць і іншых венерычных захворванняў.

ЛАЎРЭАТАМІ прэмій выдавецтва "Юнацтва" ў галіне дзіцячай літаратуры за 1993 год сталі Павел Місько за аповесць-казку "Прыйдзе дзень-залацень" (прэмія імя Міхася Лынькова) і Валянцін Лукша за кнігу паэзіі "Батлейка" (прэмія імя Петруся Броўкі). Трэцяй прэміі ўдастоены мастак Валерый Славук.

*ІНШАМАРКА НА НАШЫХ ДАРОГАХ*

# БЛЯСК У КЛУБАХ ДЫМУ

ГАДОЎ пятнаццаць назад на дарогах Навагрудчыны з'явілася іншамарка -- легкавушка заходнегерманскай вытворчасці. Уладальнікам яе стаў калгаснік Чорны. Паглядзець на машыну прыходзілі і з суседніх вёсак. Нават супрацоўнікі дзяржаўнай інспекцыі да гаспадара іншамаркі часам ставіліся паблажліва. Здаралася, захоча Чорны шыкануць -- націсне на газ, перавысіць хуткасць, дык аўтаінспектар толькі злёгку яму паківае пальцам: супакойся, не трэба ліхацтва.

Добра пафарбаваная, без ніводнай драпіны легкавушка выклікала ў аўтааматараў зайздрасць. Пайшлі-паляцелі плёткі па раёне, нібыта Чорны знайшоў скарб, вось і купіў дарагую рэч. На самай жа справе ў калгасніка за душой нічога не было. Усё тлумачылася проста: у час вайны вывезлі яго дзядзьку на работы ў Германію. Яму пашчасціла застацца жывым, атрымаць добрую працу. Вось і прыслаў ён пляменніку ў падарунак легкавушку.

Цяпер не трэба быць багатым, як Крэз, каб набыць іншамарку. "Не сёння-заўтра будзем мець на дарогах рэспублікі каля пяцідзесяці працэнтаў іншамарак", -- такую даведку далі мне ў сталічнай аўтаінспекцыі. Цікавілі яшчэ і іншыя пытанні. Скажам, ці пажаданы замежны аўтамабіль (пакуль і "Масквіч", і "Жыгулі", і "Запарожац" у Рэспубліцы Беларусь лічацца сваімі, айчыннымі) на нашых дарогах, ці выгадна яго купляць і іншыя. Для атрымання адказаў на гэтыя пытанні я і накіраваўся спачатку на Віцебскую, пасля на Брэсцкую шашу -- самыя ажыўленыя магістралі Беларусі.

... Раніца. На выездзе са сталіцы ля паста ДАІ разварочваецца перасоўная дыягнастычная станцыя. Знаёмлюся з адным з супрацоўнікаў -- сяржантам Балашэвічам. Пытаюся, якія яго адносіны да іншамарак.

-- Мяне меней за ўсё цікавіць сама марка. Галоўнае, каб аўтамабіль быў тэхнічна спраўны. Хаця, калі ўдумліва падысці да гэтай праблемы, то іншамаркі робяць дарожнай аўтаінспекцыі вельмі шмат клопату, -- адказаў ён.

І сяржант прыступіў да выканання сваіх абавязкаў. Жазлом спыніў машыну. Новенькі на знешні выгляд "Опель-рэкорд" ззяў фарбамі, блішчэў нікеліроўкай дыскаў. А "Масквіч", які прытармазіў побач, выглядаў нібы тая зебра: увесь у плямах -- то светлая фарба, то цьмяная грунтоўка, на крылах праступае ржа.

Якім было маё здзіўленне, калі пры праверцы высветлілася, што іншамарка, у адрозненне ад "Масквіча", тэхнічна няспраўная: выхлап шкодных газаў у атмасферу перавышае дапушчальныя нормы.

-- Бляск у клубах дыму, -- было рэзюме Балашэвіча. Пасля разгаварыўся. -- Выпадкі няспраўнасці іншамарак даволі тыповыя, у нашай практыцы сустракаюцца часта. Чаму? Адказ на гэта пытанне вельмі просты. Набыць замежную машыну сёння не праблема. Каштуе яна часам даволі танна. Прывозяць іншамаркі ў рэспубліку і са службовых ці турыстычных паездак. Але вось бяда: іншамаркі, нягледзячы на свой добры знешні выгляд, як правіла, ужо не новыя, яны выпрацавалі свой мотарэсурс. Эксплуатацыя такіх машын забаронена амаль ва ўсіх краінах Еўропы. Толькі не ў Беларусі. Чамусьці мала каго хвалюе, што патрыманыя машыны, набытыя за мяжой, атручваюць паветра, з'яўляюцца прычынай многіх аварый.

Вось некалькі прыкладаў, якія атрыманы ў рэспубліканскай дзяржаўнай аўтаінспекцыі. На дарозе Мінск--Валожын з-за няспраўнасці сістэмы кіравання перакулілася машына "Вольва", ля Гомеля ў "Аўдзі" адарвалася кола -- загінулі і вадзіцель, і пасажыры, у самім Гомелі "Форд" сутыкнуўся з аўтобусам -- не абышлося без ахвяр. А прычына адна: скончыўся тэрмін эксплуатацыі машын.

Такія прыклады прыводзіў і аўтаінспектар Міцук, што дзяжурыў на галоўнай трасе рэспублікі Масква--Брэст.

На думку Міцука, мы яшчэ не гатовы ездзіць на іншамарках.





**НА ЗДЫМКАХ: вось так выглядае цяпер адзін з пастоў ДАІ ў раёне Кобрына; гэта ўсё, што засталося ад хуткаходнага БМВ з Пінска! На хуткасці 160 кіламетраў у гадзіну яго вадзіцель урэзаўся ў "Мерседэс", што імчаўся насустрач. Жывых не засталося.**

**Фота Эдуарда КАБЯКА.**

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

# НА МЯЖЫ САМАВЫЖЫВАННЯ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Само разуменне культуры -- шырокае паняцце, і стварэнне гэтага факультэта мае на мэце падрыхтоўку настаўніка, які здольны арганізаваць здаровы лад жыцця. Мы думаем ісці такім шляхам: спалучыць традыцыйныя здабыткі беларускай народнай культуры, якая заснавана на прынцыпе жыццяздольнасці (а гэта вельмі важны і каштоўны скарб у эпоху ўсеагульнага крызісу культуры), з дасягненнямі навукі. А другая мэта: вярнуць да жыцця забытыя некаторыя беларускія віды спорту, нацыянальныя гульні, напрыклад, нацыянальныя віды двухбор'я, якія вызначаюцца і высокім гуманізмам, і патрабуюць інтэнсіўнай работы ад удзельнікаў. Адным словам, гаворка ідзе пра адраджэнне нацыянальнай культуры, пра выхаванне педагогаў, здольных на харошай, навуковай аснове выхоўваць маладое пакаленне, вучыць разумець, адчуваць красу, эстэтыку, харaство здаровага ладу жыцця.

**-- Я так разумею, што патрэбны спецыялісты зусім новага напрамку. Падрыхтоўкай менавіта такіх кадраў і будзе займацца ваш факультэт?**

-- Так, дагэтуль педагагічнай падрыхтоўкі па гэтай спецыяльнасці практычна няма. Ёсць мастакі -- спецыялісты па народных рамёствах, але ў класіфікатары няма спецыяльнасці "мастак-педагог". Ёсць выкладчыкі выяўленчага мастацтва, іншых мастацкіх дысцыплін, аднак што датычыць традыцыйнай народнай культуры, то такіх педагогаў няма. А цяпер мы самі бачым, які вялікі попыт на традыцыйную народную культуру. Ва ўсім свеце гэта зразумелі, а ў нас усё ўкараняліся новыя абрады, звычаі, і на нас з замежжа глядзелі як на нейкіх дзівакоў. Калі там рупяцца, каб захаваць тое, што ёсць, даць новае жыццё традыцыйным, выпрабаваным ужо формам культуры, першапачатковым яе мадэлям, то ў нас доўгі час рабілася якраз наадварот. А цяпер зразумелі гэта і мы. І зараз нам трэба падрыхтаваць настаўніка, які мог бы выкладаць і айчынную, і сусветную культуру і валодаў бы практычнымі навыкамі, які мог бы абудзіць у дзяцей прагу да творчасці. Акрамя таго, настаўнік-мастак, спецыяліст па народных рамёствах, -- гэта і своеасаблівы дызайнер, ён мяняе адлаведным чынам і асяроддзе. Вось з гэтага мы і зыходзілі. Гаворка ідзе пра тое, каб падрыхтаваць такіх спецыялістаў, якія маглі б працаваць з дзецьмі, пачынаючы з садка і канчаючы выпускнымі класамі. Перш за ўсё мы арыентуемся на школу, масавую школу.

**-- Ці няма ў вас праблем з выкладчыкамі?**

-- Вядома, ёсць. Але праблемы гэтыя не ў саміх спецыялістах. Перашкаджае нам існуючая сістэма арганізацыі вучобы і аплаты працы спецыялістаў. Ставяцца да нас вядомыя дзеячы культуры вельмі прыхільна і гатовы нам дапамагаць. А замінае жорсткая фінансавая, нічым не апраўданая дысцыпліна. На нашым факультэце навучанне платнае. І спачатку нам абяцалі даць права наймаць рэдкіх спецыялістаў па кантракту і г. д. На жаль, мы зараз гэтага права пазбаўлены, працуюць у нас выкладчыкі ў асноўным нашага універсітэта.

**-- Адкуль вы набіралі дзяцей? Колькі зараз студэнтаў у вас?**

-- Мы набралі 204 чалавекі. Я маю на ўвазе і тую групу, якую мы набіралі на аддзяленне валеалогіі. Валеалогія -- гэта навука аб захаванні здароўя. Ёсць розныя аспекты гэтай навукі. Яна, безумоўна, звязана і з біялогіяй, і з хіміяй, і з іншымі прыродазнаўчымі навукамі, але гэта яшчэ і своеасаблівая культуралагічная педагагічная дысцыпліна. Мы хацелі спалучыць падрыхтоўку па валеалогіі, даць падрыхтоўку па айчыннай і сусветнай культуры і паказаць жыццястойкасць айчыннай культуры, паказаць гэту традыцыйную народную культуру, усе яе віды і жанры. Трэба сказаць, што тэарэтычныя распрацоўкі савецкага часу недастаткова ўлічваюць ролю традыцыйнай народнай культуры, яе фундамента. На жаль, доўгі час пераважаў погляд і на міфалогію, і на іншыя формы народнай культуры як на забабоны ці нешта несапраўднае. Мы імкнуліся спалучыць падрыхтоўку спецыялістаў рознага профілю, каб найбольш поўна ў комплексе распрацаваць гэтую педагагічную праблему выхавання здольнасцяў да здаровага ладу жыцця.

Выкладчыкі задаволены студэнцкай аўдыторыяй. У нас няма праблем з наведваннем заняткаў, у нас няма праблемы дысцыпліны. Я не магу сказаць, што хто-небудзь з нашых студэнтаў недзе дапусціў амаральны ўчынак і г. д.

**-- Ці маеце вы магчымасць запрашаць на вучобу студэнтаў з іншых краін, з блізкага і далёкага замежжа?**

-- Перспектывы ў нас вялікія раскрываюцца. Што датычыць студэнтаў з іншых краін, то мы думаем з наступнага года прымаць тых, хто захоча вучыцца. Навучанне платнае. Пакуль што мы цану не ўстанавілі, але мне думаецца, што 50 долараў у месяц за навучанне не дорага. За мяжой плацяць за вучобу значна больш. А інтэрнатам мы забяспечым.

Нашы студэнты вучацца пяць гадоў, атрымліваюць спецыяльнасць і дадатковую спецыялізацыю. Пакуль што мы працуем па эксперыментальным плане. Спецыяльнасці такія: айчынная і сусветная культура, г. зн. перш за ўсё беларуская культура і сусветная культура і фальклорнае мастацтва. Студэнты атрымаюць кваліфікацыю настаўніка айчыннай і сусветнай культуры і кіраўніка фальклорнага калектыву, настаўніка выяўленчага мастацтва, настаўніка-педагога прыкладных народных мастацтваў і спецыяльнасць выкладчыка айчыннай сусветнай культуры, а яшчэ настаўніка фізічнай культуры і метадыста па аздараўленчай рабоце.

**-- Я думаю, што гэтыя спецыялісты не застануцца без працы.**

-- Я таксама ўпэўнены. Мы хочам падрыхтаваць людзей так, каб яны маглі працаваць не толькі ў школе. Нам патрэбны ініцыятыўныя работнікі, якія ведаюць хаця б у першапачатковай ступені маркетынг, валодаюць эканамічнымі навыкамі, каб яны маглі займацца і прадпрымальніцтвам.

У нас сёння шмат гавораць пра сацыяльную несправядлівасць, але, думаецца, што ўвагу трэба праявіць да тых бацькоў, якія свае кроўныя, нялёгкай працай зробленыя грошы плацяць за тое, каб іх дзеці вучыліся, аплачваючы навучанне, уносяць свой уклад ва ўмацаванне нашай вучэбнай базы.

З нашай адміністрацыяй у нас праблем няма. Рэктар акадэмік Ціханаў -- чалавек вельмі ініцыятыўны, ён добра арыентуецца ў сітуацыі і добра ведае кірункі развіцця сучаснай педагагічнай думкі і практыкі, і ён падтрымлівае нас. Але хацелася б, каб і ў Міністэрстве адукацыі таксама паставіліся больш уважліва да гэтых групаў з платным навучаннем. Без пэўнай свабоды не можа быць ініцыятыўных дзеячаў у навуцы, педагогіцы. Менш бы гэтай дробязнай апекі.

Факультэт народнай творчасці Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта зараз існуе на мяжы самавыжывання, самазабеспячэння. Відавочна, што акрамя энтузіястаў-арганізатараў гэтай вельмі неабходнай галіны навукі па падрыхтоўцы педагогаў прыкладных народных мастацтваў нікому не баліць, нікога не хвалюе фінансавы стан і будучыня навучальнай установы. А гэта справа павінна быць клопатам дзяржаўным, менавіта Міністэрстваў адукацыі, культуры і друку, іншых дзяржаўных структур, якія па абавязку службы мусяць праявіць заклапочанасць і аказаць падтрымку новаму факультэту, бо гэта праца на перспектыву, на будучыню.

**Галіна АГАЛАКАВА.**

БЕЗ ІДЭАЛІЗАЦЫІ І АЧАРНЕННЯ

# ЯК СЛУЧАКІ БАРАНІЛІ СВОЙ ДОМ

Нацыянальны камітэт, гэты мясцовы орган самакіравання, сачыў амаль за ўсімі бакамі грамадскага жыцця. Яго намаганнямі былі створаны розныя каапeратыўныя саюзы, членамі якіх з'яўляліся жыхары Слуцка і навакольных вёсак. Члены Нацыянальнага камітэта, як правіла, уваходзілі ў кіраўніцтва гэтых саюзаў. У людзей выхоўвалі думку, што яны самі някепска змогуць гаспадарыць у сваім доме.

Прытрымліваючыся дэмакратычных прынцыпаў, шмат пытанняў -- пошукі сродкаў на развіццё адукацыі і культуры, арганізацыя войска, утварэнне нацыянальных камітэтаў -- органаў улады на месцах -- камітэт выносіў на разгляд сходаў. Па прапанове камітэта збіраліся ахвяраванні беспрацоўным, праводзіліся платныя спектаклі, аўкцыёны. Атрыманыя сродкі ішлі на закупку харчавання для тых, хто меў патрэбу ў дапамозе.

Шмат намаганняў прыходзілася прыкладаць, каб абараніць насельніцтва ад рэпрэсіўнай палітыкі польскіх улад. Некалькі разоў акупанты спрабавалі разагнаць настаўніцкія курсы, учынялі вобыскі, пагражалі арыштамі, але, як правіла, дыпламатычным шляхам перамоў канфлікты ўладжваліся.

Такім чынам, Нацыянальны камітэт быў цэнтрам палітычнага і сацыяльнага жыцця, органам нацыянальнага дзяржаўнага кіравання. Як бачым, развіццё нацыянальнага руху дасягнула той кропкі, калі з яго радоў выдзяляліся лідэры, арганізатары. Ва ўмовах амаль няспыннай вайны, акупацыі (польскай, нямецкай, бальшавіцай) гэтыя людзі рупіліся аб пабудове ўласнага дому, уладкаванасці сваёй малой радзімы. Яны шукалі выйсце.

## ПРЫЧЫНЫ СЛУЦКАГА ПАЎСТАННЯ

Становішча павета было вельмі складаным. Магутныя суседкі Беларусі -- Расія і Польшча шляхам вайны высвятлялі свае адносіны. Пасля разгрому савецкіх войск пад Варшавай у жніўні 1920 года Чырвоная Армія пачала адступаць на ўсход, аддаючы польскім войскам тэрыторыі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. У Рызе ішлі перамовы паміж урадавымі дэлегацыямі Савецкай Расіі і Савецкай Украіны, з аднаго боку, і Польшчы -- з другога. Беларусаў, нават прадстаўніка БССР А.Чарвякова, у Рыгу не дапусцілі. Расія была гатова, калі спатрэбіцца, перадаць усю тэрыторыю Беларусі Польшчы. Але польскі бок быў не ў стане прыняць такую "ахвяру", каб не стварыць сабе "беларускай праблемы".

12 кастрычніка 1920 года быў падпісаны дагавор аб замірэнні і прэлімінарных умовах міру. Заходняя Беларусь і Заходняя Украіна адыходзілі да Польшчы. Ваенныя дзеянні спыніліся 18 кастрычніка 1920 года ў 24 гадзіны. Тым не менш, начальнік Польскай дзяржавы і галоўнакамандуючы Ю.Пілсудскі аддаў загад сваім войскам прасоўвацца далей і пасля замірэння. 15 кастрычніка быў заняты Мінск, але паводле ўмоў пагаднення 17 кастрычніка польскія войскі пакінулі горад. 11 кастрычніка яны былі ў Слуцку. Баі з чырвонымі з пераменным поспехам вяліся да 18 кастрычніка. Чырвоныя былі адціснуты за 25 вёрст на ўсход ад Слуцка.

Арыштаваны ў 1930 годзе Уладзімір Пракулевіч, адзін з арганізатараў паўстання, пакінуў у ДПУ своеасаблівы нарыс "Слуцкае паўстанне (лістапад--снежань 1920 года)", даволі падрабязнае апавяданне аб падзеях. "У горадзе замерла ўсялякае жыццё, глыбокая цішыня панавала на вуліцах, -- успамінаў ён тыя кастрычніцкія дні, -- грамадскія і дзяржаўныя ўстановы не функцыянуюць, прыпынілася і гандлёвая дзейнасць. Горад абязлюдзеў". Але, як сведчыў Пракулевіч, разгубленасць хутка прайшла. Аднавілася дзейнасць Нацыянальнага камітэта, які ў перамовах з прадстаўніком польскай улады ў Слуцку, камандзірам 10-й дывізіі палкоўнікам Ясінскім, высветліў, што лёс павета канчаткова не вырашаны, ад случакоў польскі бок чакае "просьбы" аб далучэнні да Польшчы. Чакаючы, акупацыйныя ўлады распаўсюджвалі падрыхтаваныя "ўхвалы" з наступным тэкстам: "Мы, жыхары (назва вёскі і воласці), прызнаём за нашу маці Польшчу і просім Польшчу прыняць нас у лона сваё". Нахабнае распаўсюджанне панафільскіх улётак выклікала актыўны пратэст і супрацьдзеянні Нацыянальнага камітэта. "Ухвалы" стараліся перахапіць. Польскіх агентаў затрымлівала беларуская міліцыя, але тут жа міліцыянеры арыштоўваліся польскімі ўладамі. На хадайніцтва камітэта аб іх вызваленні жандары адказвалі: "Кульку ім у лэб". Тым не менш, адчуваючы падтрымку большасці насельніцтва, якое зусім не жадала апынуцца пад польскім дахам, Нацыянальны камітэт настойліва даказваў незаконнасць падобнай агітацыі. У рэшце рэшт міліцыянераў адпускалі.

Патрыятычная пастава мясцовага сялянства, няпэўнае становішча паміж двума варожымі бакамі, якія былі вельмі заняты вырашэннем асабістых праблем, падштурхоўвалі да пошукаў самастойнага шляху. Безумоўна, незалежнікі, у першую чаргу, улічвалі невызначанасць палітычнай сітуацыі ў Еўропе. Беларускае пытанне толькі пачало абмяркоўвацца ў пэўных колах Антанты, і ўзброеная барацьба за незалежнасць павінна была паўплываць на яго рашэнне, тым больш, што першы пункт Рыжскай дамовы фармальна сведчыў аб прызнанні расійскім і польскім бакамі суверэнітэту Беларусі. Беларуская грамадскасць спадзявалася, што яе незадаволенасць гвалтоўным падзелам Беларусі на дзве часткі будзе пачута ў Еўропе і выкліча разуменне. Быў пэўны разлік на слабасць Саветаў. Армія Врангеля яшчэ вяла баі, рыхтавалі сілы Булак-Балаховіч, Пятлюра, Перамыкін. Гэта ваеннае супрацьстаянне, на думку пэўных палітычных колаў, можна было ўжыць на сваю карысць.

І амаль галоўная прычына крылася ў тым, што вёска выспела для актыўнага ўзбройнага пратэсту. Простыя людзі прыйшлі да высновы, што паратунку ад хаосу, зняважання, рабунку трэба шукаць у самастойнай незалежнай дзяржаве з уласным войскам і ўрадам.

**Ніна СТУЖЫНСКАЯ.**

**Працяг.**
**Пачатак у № 50.**

---

У 1993 ГОДЗЕ ў Мінску выйшаў зборнік паэзіі Цыпрыяна Норвіда "Ідзі за мною" ("Vade mecum"). У кніжку ўвайшло больш за восемдзесят твораў, між іншым "Scherzo", "Vade mecum", "Да грамадзяніна Джона Браўна", "Беатрыс", "Сталіца", "Імправізацыя", "Post scriptum", "Пілігрым" і іншыя. Усё гэта пераклаў на беларускую мову Алег Мінкін.

Норвід у перакладзе Алега Мінкіна загучаў упершыню, бо дагэтуль бібліяграфія не пацвярджае, каб што-небудзь з твораў аўтара "Vade mecum" ажыло на беларускай мове. Зрэшты, і выдавецтва "Мастацкая літаратура", у якім надрукаваны зборнік, таксама падкрэслівае, што творы Норвіда выходзяць у Беларусі ўпершыню. Перакладчык узяў на сябе немалы цяжар перакласці аж столькі вершаў знакамітага польскага паэта.

ПЕРАКЛАДЫ Алега МІНКІНА

# НОРВІД, СТАФ, ЛЕСЬМЯН — ПА-БЕЛАРУСКУ

Кніжка выдадзена вельмі старанна, у цвёрдай вокладцы, з цудоўнымі графічнымі малюнкамі. Зборнічак мае ўступны артыкул аб жыцці і творчасці Ц.К. Норвіда, напісаны А. Мінкіным. У канцы кніжкі даюцца заўвагі, у якіх аўтар падае час напісання твора, растлумачвае некаторыя азначэнні і прозвішчы.

Да твораў польскага паэта перакладчык падышоў удумліва, з піэтызмам. І таму паэзія Норвіда па-беларуску гучыць натуральна і прыгожа. Мінкін патрапіў перадаць найтанчэйшыя нюансы слова аўтара "Fatum". Вось як гучыць па-беларуску восьмая страфа верша "Фартэпіяна Шапэна":

**Глядзі, Фрэдэрык!.. Вось Варшава:**
**Над ёю, за пасмамі дыму,**
**Зорка гарыць крывава --**
**Глядзі, вунь абрысы Фары!**
**Вобраз Радзімы:**

**Паўсюль -- камяніцы,**
**Старыя, нібы Паспалітая Рэч,**
**Брук пляцоў, шэры і ніцы,**
**І Жыгімонта ў аблоках меч.**

Упершыню на беларускай мове з'явіліся таксама вершы Баляслава Лесьмяна. У 1994 годзе віленская "Наша ніва" і мінская "Мастацкая літаратура" выдалі томік вершаў Баляслава Лесьмяна "Пан Блышчыньскі" ў перакладзе зноў жа Алега Мінкіна. У зборнік увайшло 56 вершаў польскага паэта, ім папярэднічае прадмова Сяргея Дубаўца, у якой аўтар імкнецца давесці, што паэзія Лесьмяна вельмі блізкая творчасці Янкі Лучыны, Янкі Купалы, Максіма Багдановіча мадэрнісцкага перыяду, калі гэтыя паэты не сталі яшчэ народнымі, беларускімі. Дубавец шчыра вітае Лясьмяна з яго казачнай фантастыкай і гратэскам, з адмысловым бачаннем рэальнасці, а перадусім -- з яго ўяўленнем свету прыроды.

Перакладчык змушаны быў пераадолець шмат выразаў і неалагізмаў Лесьмяна, прыстасаваць іх да беларускай мовы так, каб чытач зразумеў сэнс і намеры арыгінала. Мінкін добра справіўся з пастаўленымі перад сабой задачамі: беларусы атрымалі жменьку прыгожай, гучнай паэзіі польскага мадэрніста.

У ліпені 1994 года выйшла з друку трэцяя кніжка польскай паэзіі -- Леапольд Стаф "Высокія дрэвы" ў перакладзе Алега Мінкіна. Зноў жа, гэта першае выданне на беларускай мове паэзіі Л. Стафа. Праўда, паасобныя вершы паэта друкаваліся ў Беларусі. Першы верш яго ("Мір") у перакладзе Івана Калесніка надрукавала яшчэ ў 1954 годзе "Чырвоная змена". Потым у 1958 годзе верш "Вясна" пераклаў Максім Танк і надрукаваў яго ў "Літаратуры і мастацтве". А твор "Каваль", апублікаваны ў тым жа годзе ў маладзечанскай газеце "Чырвоны сцяг", пераклаў А. Румар. Акрамя гэтага ў 60--70-х гадах на беларускай мове былі надрукаваны вершы Л. Стафа "Вясна", "Маці", "Мост", "Натхненне" і "Міцкевіч" у перакладах Максіма Танка і Петруся Макаля.

Алег Мінкін пераклаў 82 вершы аўтара "Асенняга дажджу", напісаныя ў 1901--1958 гадах. Гэта самы вялікі выбар твораў Л. Стафа на беларускай мове. Перакладчык наважыўся наблізіць да беларускага чытача зрэз творчасці польскага паэта, прадставіўшы яго лепшыя вершы, тым самым паказаў Стафа як дасканалага майстра слова. Мінкіну ўдалося дакладна адчуць настрой, сродкі экспрэсіі, мову і філасофію аўтара "Сноў аб моцы". Справіцца з паэтычным словам Стафа нялёгка, таму што творчы плён Стафа змясціў у сабе некалькі перыядаў, пачынаючы ад мадэрнізму і канчаючы літаратурай Народнай Польшчы. Найперш Стаф выказаў ніцшэанскія схільнасці Маладой Польшчы, эстэтычную стылізацыю. Потым прыйшла ў яго паэзію штодзённасць, матыў "шэрага чалавека", нарэшце, яго паэзія прайшла праз акалічнасці вайны і акупацыі. Потым, як піша Владзімеж Мацёнг, у "лірыцы 1945--1953 гадоў з'яўляецца ўсведамленне памераў катастрофы, якую прынеслі вайна і акупацыя, разуменне драмы літаратуры, якую прынеслі паваенныя гады, а ў выніку -- неабходнасць больш глыбокай рэвізіі асабістай мастацкай пазіцыі".

(Заканчэнне на 7-й стар.).

---

ПІСЬМЫ З-ЗА МЯЖЫ

# ПАВАЖАЦЬ СЯБЕ

Рэдактару газеты "Голас Радзімы".

Паважаны спадар рэдактар!

Удзячны Вам, што вы на балонках "Голасу Радзімы" друкуеце пісьмы маіх суродзічаў-беларусаў замежжа. Большасць з іх крытычна ставіцца да цяперашняй палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў Беларусі. На жаль, я таксама шмат чаго добрага дадаць тут не змагу. Амаль чатыры гады, як Беларусь атрымала сваю незалежнасць. І тым не менш дагэтуль пра Беларусь мала хто ведае, а беларускі ўрад не шмат робіць для яе рэкламы ў свеце. Мінула два гады, як Англія завязала дыпламатычныя суадносіны з Беларуссю на ўзроўні амбасадараў. Аднак для грамадзяніна Беларусі, каб дастаць брытанскую візу, надалей трэба ехаць у Маскву ці Кіеў. Чаму так? За тлумачэннямі звярнуўся я да свайго выбранніка ў парламент, які, у сваю чаргу, ад майго імя звярнуўся да міністра замежных спраў Вялікабрытаніі. У сваім адказе (які дадаю да ліста) міністр піша, што ў Мінску няма адпаведнага месца, дзе можна адкрыць сталую брытанскую амбасаду і таму надалей дараджае аплікантам па візы ехаць у Маскву. Адсюль відавочна, што Вялікабрытанія не бачыць ніякага палітычнага ці эканамічнага інтарэсу, каб пабудаваць установу сталай амбасады ў цяперашняй Беларусі. Яны, на маю думку, бачаць, што старая камуністычная адміністрацыя не змянілася, не ўяўляюць, у якім напрамку і куды цяперашні беларускі ўрад вядзе Беларусь, а тым часам прарасійскія антыбеларускія сілы пашыраюцца. Урад замест таго каб узмацняць нацыянальнае адраджэнне ў адміністрацыі і адукацыі, ставіцца да гэтага пасіўна. На сесіях Вярхоўнага Савета дэпутаты адкрыта выступаюць супраць дэкрэтаў Канстытуцыі: дзяржаўнасці, беларускай мовы. Міністэрства ўнутраных спраў адкрыта выступае супраць нацыянальных дэманстрацыяў пад знакам дзяржаўнай сымболікі. Тут можна ўзгадаць святкаванне 50-годдзя Перамогі і вызвалення Беларусі ад нямецкіх захопнікаў. Тыя, хто прыйшоў на плошчу Перамогі ў гэты дзень, трымалі чырвоныя сцягі і лозунгі. Між гэтых сцягоў не было ніводнага сапраўды беларускага сцяга. Дык дзе гэтыя людзі жывуць і чый хлеб ядуць -- беларускі ці савецкі?

Яшчэ прыкрыя прыклады. Атрымліваю пісьмы ад сваякоў з Бацькаўшчыны. Паштовая пячаць на пісьмах надалей у рускай мове: "Почта СССР". Чаму Міністэрства сувязі Беларусі такое індэферэнтнае? Гэтыя вышэйзгаданыя факты -- ганьба для суверэнітэту Беларусі. Не дзіўна, што ўрады заходніх дзяржаў палітычна ставяць нас на ўзровень Кубы і Паўночнай Карэі, а эканамічна наш усходні сусед называе нас "бананавай" ці "агурковай" рэспублікай. Як можа беларускі народ пагадзіцца з гэтым? Ён павінен даказаць, што мы не горшыя ад другіх. Дасягнуць гэта магчыма толькі тады, калі ён будзе паважаць сябе сам, будзе любіць свой родны край.

Урад павінен нарэшце пачаць праводзіць дэмакратычную палітыку... Не трэба глядзець толькі на Усход і спадзявацца на яго дапамогу: у яго зашмат сваіх эканамічных клопатаў. Трэба ўсвядоміць, што нам ніхто не дапаможа, калі мы самі сабе не дапаможам. Трэба пачаць выводзіць эканоміку на вольны рынак і шукаць помачы і парады і ад заходніх краін. Грамадзянін Беларусі павінен мець магчымасць палепшыць стан свайго жыцця, а тым самым і краю. Трэба стварыць адпаведныя эканамічныя ўмовы, каб зацікавіць замежных інвестараў укласці грошы ў беларускую эканоміку. Хопіць думаць пра мінулае. Яно ўжо не вернецца. Пачніце ўсімі сіламі будаваць добрую і заможную Беларусь. З Божай дапамогай і беларускай працавітасцю вы зможаце гэтага дасягнуць.

Жыве Беларусь!

З пашанай

**С. БУДКЕВІЧ.**

Англія, Ковентры.

**Захар ШЫБЕКА**

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX – XX СТАГОДДЗЯХ

**(РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)**

### 265

Акупаваўшы беларускія землі Гродзеншчыны і Віленшчыны і збіраючыся ў паход на Міншчыну, Віцебшчыну і Магілёўшчыну, Язэп Пілсудскі шырока абвясціў жыхарам былога Вялікага Княства Літоўскага, што польскі меч нясе ім волю і дабрабыт. Гэта выклікала надзеі ў беларускага народа і падрыхтавала прыхільнае спатканне польскіх войск на беларускіх тэрыторыях. Арганізоўваліся нават асобыя паўстанцкія атрады беларускай партыі "Зялёны Дуб", якія па ўзгадненню з польскім урадам дзейнічалі ў бальшавіцкім тыле. Галоўны ўдар наносіўся па Мінску. 8 жніўня горад ужо знаходзіўся ў руках польскага генерала Шэптыцкага. Польскае войска прасунулася да лініі ракі Бярэзіны, і тут фронт стабілізаваўся да вясны 1920 года. Літоўска-Беларуская Савецкая Рэспубліка перастала існаваць. Большасць беларускіх земляў трапіла пад акупацыю пілсудчыкаў. У сакавіку наступленне палякаў узнавілася і яны пры падтрымцы пятлюраўцаў дайшлі да Дняпра. З поўдня навальваўся Дзянікін. Узнікала пагроза Маскве. У красавіку 1920 года напужаны ленінскі ўрад прапаноўваў Польшчы ўсю тэрыторыю былой Літоўска-Беларускай Рэспублікі ўзамен на мірнае пагадненне. Правадыр расійскіх люмпенаў выяўляў большую гібкасць, чым Дзянікін, які змагаўся за рэстаўрацыю былой Расійскай імперыі ў поўным складзе. Таму Пілсудскі і не падтрымаў маскоўскага наступлення дзянікінцаў. Ён ратаваў урад Леніна, каб потым дзяліць з ім беларускія і ўкраінскія землі.

Для беларускага народа польска-савецкая

### 266

вайна стала чарговай захопніцкай вайной. Як ужо не раз бывала раней, беларусы, забраныя пад ружжо расійцамі і палякамі, ваявалі адзін супраць аднаго. А акупанты з двух бакоў захоплівалі нашы землі коштам беларускай крыві ды яшчэ сцвярджалі пры гэтым, што вызваляюць нас ці то ад камуністаў, ці то ад капіталістаў. Зноў нам тлумілі галовы. А разважлівыя сяляне глядзелі на польска-савецкую бойку ды ўспаміналі, што нават пры немцах было лепей: тады іх хоць абараняў урад БНР.

**АКУПАЦЫЙНЫ РЭЖЫМ.** Абяцаная польская "воля" хутка абярнулася шомпаламі ды бізунамі, што гулялі па мужыцкіх карках, калі жаўнеры адбіралі тое, што не паспелі прыбраць немцы з бальшавікамі. Даставалася і яўрэйскім крамам, якія аддаваліся на рабаванне жаўнерам. Ужо ў жніўні 1919 года выйшаў загад аб вяртанні адчужанай маёмасці былым уласнікам. І пачалі прыскочыўшыя гаспадары забіраць дзе-нідзе прыхопленыя сялянамі панскія землі ды помсціць вяскоўцам за самавольства. Паны атрымалі вышэйшыя пасады як у цэнтры, так і на месцах. Але ў першую чаргу палякі распраўляліся з камуністамі, часам і з уяўнымі. За камуністычныя асяродкі прымаліся нават праваслаўныя цэрквы і сінагогі. Акупаванымі тэрыторыямі кіраваў Генеральны камісарыят усходніх зямель, створаны пры штабе Літоўска-Беларускага фронту. Яго ўзначальваў Е. Асмалоўскі, былы паплечнік Доўбар-Мусніцкага. Захопленыя на ўсход ад Беласточчыны беларускія землі дзяліліся на 4 акругі (Брэсцкую, Валынскую, Віленскую і

### 267

Мінскую), а яны -- на паветы на чале са старастамі. Грамадзянская акупацыйная адміністрацыя ва ўсім падпарадкоўвалася ваеннаму кіраўніцтву і самастойнага значэння практычна не мела.

Польскія ўлады абяцалі галоднай Беларусі хлеб і сала, што прысылала Амерыка. Але харчы маглі атрымаць толькі тыя, хто ўступаў у польскія кааператывы, а ў апытальных лістах запісваўся -- "паляк". Зразумела таму, што галодныя беларусы-католікі не маглі не павялічыць колькасць "польскага" насельніцтва ў Заходняй Беларусі. Менавіта тут з 1919 года зараджаўся інстытут асаднікаў. Польскім легіянерам перадаваліся дзяржаўныя землі і надзелы беларусаў-бежанцаў для замацавання польскага ўплыву. Для польскіх шавіністаў не было Беларусі і беларусаў, а былі "крэсы ўсходнія" і "крэсовякі", з якіх павінны атрымацца добрыя палякі. Асабліва жорстка ўсё беларускае вынішчалася на Беласточчыне.

Не выключалася і палітыка заляцанняў. З верасня 1919 года дазвалялася дзейнасць Часовага Беларускага Нацыянальнага Камітэта, які ўзначальваў Прушынскі (Алесь Гарун). Беларускі паэт і палітык вітаў Пілсудскага ў Мінску, але і выступаў за незалежную Беларусь разам са Смаленшчынай. 20 жніўня 1919 года выходзіць чарговы загад аб карыстанні беларускай моваи. Яна дазвалялася ва ўжытку, але дзяржаўнай лічылася польская. Пайшла паланізацыя. Беларускія школы маглі працаваць толькі ў мінскай акрузе. В. Іваноўскаму нават удалося адкрыць у Мінску Беларускі педа-

### 268

гагічны інстытут. На Гродзеншчыне ж і Віленшчыне беларускія школы закрываліся. Чаму?

Ужо ў першы год польскай акупацыі рыхталіся ўмовы для паступовага ўключэння беларускіх зямель у склад польскай дзяржавы. Але не ўсіх. Польскае кіраўніцтва (не выключана, што і Пілсудскі) пачынала разумець усю нерэалістычнасць узнаўлення Рэчы Паспалітай у межах 1772 года. Прынцып польскіх палітыкаў быў такі: "на ўсходзе трэба праглынуць роўна столькі, колькі можна асіміляваць за адно пакаленне". Усходняя Беларусь была для палякаў разменнай манетай, якую яны рыхталіся перадаць бальшавікам за іх згоду на адмову ад Беларусі заходняй. А таму заходнія беларускія землі паланізаваліся, а ўсходнія -- рабаваліся.

Узнёслыя ідэалы польскіх сацыялістаў на чале з Пілсудскім аб дзяржаўным саюзе (федэрацыі) народаў былой Рэчы Паспалітай, што ўзніклі яшчэ ў рэвалюцыйным 1905 годзе, разбіваліся аб жорсткую рэчаіснасць. Акупацыйная ваенная і цывільная адміністрацыя пра гэтыя ідэалы, магчыма, і не ведала. Яе палітыка адпавядала лініі нацыянальнага дэмакрата Дмоўскага на поўную інкарпарацыю заходнебеларускіх земляў. І ў сацыялістаў, і ў эндэкаў пераважала думка, што беларусы не здольныя да незалежнага існавання і стварэння ўласнай дзяржавы (нібыта не існавала БНР). Ідэя федэралізму выстаўлялася, трэба меркаваць, у тактычных мэтах.

**СУПРАЦІЎЛЕННЕ ЦІ СУПРАЦОЎНІЦТВА!** Здавалася б, ахвяры польскай агрэсіі -- Бела-

### 269

русь, Літва і Украіна -- павінны скласці ваенны саюз. Ён не пашкодзіў бы і для абароны ад расійскіх бальшавікоў. Ды не было паміж імі згоды. Не было згоды і паміж беларускімі дзеячамі. У пошуках падтрымкі беларускай дзяржаўнасці яны рассыпаліся паміж Польшчай, Расіяй і Літвой. І толькі некаторыя зберагалі надзею на падтрымку свайго народа.

Спачатку шмат хто чакаў дапамогі з боку Пілсудскага. Беларускія дзеячы ведалі, што ён нарадзіўся на Віленшчыне і ўмеў размаўляць па-беларуску, што прымаў у сваё войска мясцовых сялян і не забараняў ім ужываць бацькоўскую мову. Да таго ж кіраўнік Польшчы так шчодра асыпаў беларусаў абяцанкамі. 12--14 чэрвеня 1918 года з дазволу акупантаў працаваў з'езд беларускіх дэлегатаў Віленшчыны і Гродзеншчыны. У сваёй рэзалюцыі да ўсіх народаў і вялікіх дзяржаў свету дэлегаты насуперак разлікам польскіх улад выказалі настойлівае жаданне бачыць Беларусь непадзельнай. З'езд асудзіў намеры Калчака ўзнавіць Расійскую імперыю і падтрымаў ідэю стварэння федэратыўнай беларуска-літоўскай дзяржавы ды беларускага народнага войска. Абраную дэлегатамі Цэнтральную Беларускую Раду Віленшчыны і Гродзеншчыны ўзначаліў эсэр Клаўдзій Душ-Душэўскі, а потым яго замяніў Браніслаў Тарашкевіч.

Пасля ўзяцця палякамі Мінска Пілсудскі выступае з прамовай і ўжо дакладна абяцае беларусам дзяржаўную незалежнасць. Сюды патроху збіраюцца бэнээраўцы ды просяць свайго земляка ўзнавіць працу Рады і ўрада БНР. Даз-

### 270

вол быў атрыманы толькі ў снежні 1919 года. Сярод радаўцаў утварыліся дзве групоўкі. Беларускія эсэры і сацыял-федэралісты лічылі, што працаваць з акупантамі няма ніякай магчымасці. Яны ўжо вялі з палякамі партызанскую барацьбу. Другія даводзілі, што яшчэ ёсць надзея чакаць змен у польскай палітыцы да лепшага.

**РАСКОЛ РАДЫ БНР.** На гэтым грунце 13 снежня адбыўся раскол Рады БНР. Антыпольская фракцыя ўтварыла Народную Раду БНР на чале з Пётрам Крэчэўскім і свой кабінет міністраў на чале з Вацлавам Ластоўскім. Другая частка, што збіралася супрацоўнічаць з акупантамі, склала Найвышэйшую Раду БНР і вылучыла свой урад на чале з Антонам Луцкевічам. І зноў беларусы перасварыліся. Сярод іх у Мінску не было аўтарытэтных лідэраў. Іван Луцкевіч памёр у жніўні 1919 года. Антона Луцкевіча польскія ўлады трымалі фактычна пад хатнім арыштам у Варшаве, куды ён прыехаў з Парыжскай мірнай канферэнцыі.

**ДЗЕЙНАСЦЬ ПРАПОЛЬСКАЙ ПАРТЫІ.** У польскай сталіцы Антона Луцкевіча, праўда, прыняў сам Пілсудскі. Ён абяцаў у будучыні культурную аўтаномію і нават даў згоду на фарміраванне беларускага войска. Але Луцкевіч хутка зразумеў, што польскія ўлады ніколі не падтрымаюць незалежнасць Беларусі. Другога выйсця ён не бачыў і 28 лютага 1920 года пайшоў у адстаўку ды пераехаў у Вільню. Яго пераемнікам стаў Аркадзь Смоліч. У групу прапольскай арыентацыі ўваходзілі таксама Лёсік, Рак-Міхайлоўскі, Серада, Іваноўскі, кс. Адам Станкевіч.

### 271

Тым часам актывізавалася дзейнасць створанай у кастрычніку 1919 года польскім урадам Беларускай вайсковай камісіі на чале з Паўлам Алексюком. У яе склад уваходзіў і Змітрок Бядуля, і будучы арганізатар Беларускай Краёвай Абароны падчас фашысцкай акупацыі Францішак Кушаль. Аднак беларускае войска практычна так і не было сфарміравана. Гэтаму ўсяляк перашкаджала польскае ваеннае камандаванне. Ніяк не спрыяў справе і прынцып добраахвотнага набору, якога строга прытрымліваліся бэнээраўцы.

У маі Найвышэйшая Рада прапаноўвала дзяржаўны саюз Польшчы з Беларуссю па ўзору былой Рэчы Паспалітай. Беларускія дзеячы імкнуліся прадухіліць падзел Беларусі паміж Польшчай і Расіяй. А якраз такая небяспека і чакала наш народ, калі б Польшча прыняла прапанову Леніна аб устанаўленні савецка-польскай мяжы па Дзвіне, Уле і Бярэзіне. Лепей было трапіць пад Польшчу, чым быць падзеленымі. На сустрэчы з польскай дэлегацыяй, якой кіраваў Лявон Васілеўскі, беларусам удалося пераканаць у гэтым і палякаў, карыстаючыся іх станам эйфарыі ад перамог над бальшавікамі. Абодва бакі згадзіліся, што Беларусь увойдзе ў склад Польшчы ў межах 1772 года. Аднак з пагаршэннем становішча на Усходнім фронце палякі адмовіліся ад гэтай ідэі. У чэрвені Найвышэйшая Рада патрабавала ўжо незалежнасці БНР і пратэктарата Лігі Нацый над тэрыторыяй Беларусі да склікання Устаноўчага Сейма. Каб пераканаць у гэтым заходніх палітыкаў, Антон Луцкевіч збіраўся паехаць у Парыж, ды не ўдалося.

### 272

**НЕЗАЛЕЖНІКІ.** А палітычны апанент Луцкевіча -- Вацлаў Ластоўскі пасля двух месяцаў польскай турмы ў лютым 1920 года едзе ў Каўнас -- сталіцу Літоўскай Рэспублікі, дзе працавала забароненая акупантамі Народная Рада БНР, і працягвае барацьбу за незалежнасць Беларусі ў саюзе з літоўцамі. Яго ўрад бярэ на сябе функцыю міжнароднага прадстаўніцтва БНР. Ластоўскага падтрымліваюць усе незалежніцкія партыйныя і грамадскія арганізацыі беларусаў, у тым ліку і Беларуская партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў, прадстаўнікі якой знаходзіліся ў Народнай Радзе. Гэта партыя ўступіла ў адкрытую ўзброеную барацьбу за незалежнасць. Яна прытрымлівалася тэорыі двух акупантаў, згодна з якой захопніцкімі лічыліся ў аднолькавай меры як Войска Польскае, так і Чырвоная Армія. Па вёсках ствараліся сялянскія дружыны, якія аб'ядноўваліся ў "Сувязь беларускага працоўнага сялянства". Барацьба вялася пад лозунгам: "Змагаймося -- зможам!".

Праўда, са снежня 1919 года існавала смаленскае эсэраўска-бальшавіцкае пагадненне аб сумесных дзеяннях супраць польскіх акупантаў. Партызанскай барацьбой кіравала створаная ў Мінску Вайсковая камісія. Ленінскі ўрад, разгортваючы сваё падполле, імкнуўся скарыстаць і беларускі рух у сваіх мэтах. Перамовы П. Бадуновай у Маскве (май 1920) канчаткова пераканалі эсэраў Беларусі, што ленінцы ніколі не пойдуць на прызнанне незалежнасці БНР і ўрада Ластоўскага.

*БЫЎ У НАС ТАКІ ПАЭТ — Хведар ІЛЬЯШЭВІЧ*

# "ДЫК ЗДАБУДЗЕМ КВЕТКУ ШЧАСЦЯ"

Перачытваючы вершы Хведара Ільяшэвіча, адчуваеш, што, можа, гэта адзіны ў беларускай літаратуры таго часу паэт, які гарэў нязгаснай верай у светлую вясну роднага краю і жадаў перадаць, пераліць гэту веру ўсім беларусам, ён быццам хацеў запэўніць і сябе, і іншых, якое шчасце жыць на гэтай прыгожай зямлі:

**Беларусь! -- краіна сіняя...**
**Я люблю цябе да сьлёз...**
**Вандраваць тваймі пуцінамі**
**Мне прызначыў пэўна лёс...**

Любоўна-ласкава ён называе сваю Беларусь "казкаю вясняною", "князёўнаю", дзе "вёска сьпіць ў серабрыстай сарочцы", дзе паэт "соладка піў арамат прасторных, радзімых палёў..." і дзе "дрэмле маліцвенна лес...".

**Беларусь ты**
**мая рассьпяваная!**
**(Нібы ў песьнях**
**ты толькі і ёсьць...).**
**Я прыходжу к табе,**
**о, каханая,**
**Сын вясны, нібы**
**новы госьць..**

Паэт узносіць малітвы "к прастору -- Сусвету", бясконца прызнаецца ў каханні да сваёй зямлі: "Зямля каханая! Ты чуеш, як я цябе люблю. Ты -- усё! Я -- твой пясьняр..." Але яму, як песняру, баляць усе яе раны, і ён часта пытае сябе і іншых, "чаму мы жывём у такой панявернцы", а маглі б "жыць панамі на гэтай прыгожай зямлі", спяваць "песьні аб смачным хлебе", і таму жаласна скардзяцца паэтавы струны... Ён цяпер імкнецца халодным і спакойным розумам цвяроза разабрацца ў сэнсе "людскіх жаданняў", складаных праблем жыцця, сцвярджае, што трэба ўласнымі рукамі каваць сваё шчасце. Яго сэрца звініць трывогай, і хоць у душы не "выкіпеў" малады хмель, паэт, аглянуўшыся наўкола, заўважае, што і ў жыцці, і ў мастацтве мала шчасця і радасці:

**Па вёсках Беларусі**
**сялянскі едзе воз...**
**На ім труна ў дзярузе,**
**ў труне той -- поўна сьлёз...**
**Ляжыць на веку ліра --**
**ў ёй струнаў цэлы рад --**
**Галосяць яны шчыра**
**на нашаніўскі лад.**
**Выходзяць людзі гурмам**
**І жаласна глядзяць --**
**А гэты воз хаўтурны**
**здалёк усё чуваць...**

Тут яскрава прачытваюцца матывы купалаўскай "Жалейкі", коласаўскіх "Песняў жальбы", паэт чулай душой не мог не заўважаць супярэчнасці і цяжкасці жыцця шматпакутнай Беларусі. ("Што ж? Радзіліся ў час такі мы, калі поле сьлязьмі ўскаласіла. Не злічыць нам у роднай зямлі неаплаканых песьняў-магілаў").

**Я ня знаю -- чаму я павінен**
**Сэрца ў вершах паліць**
**без адчаю.**
**Адно цешыць мяне,**
**што ў Краіне**
**Я не першы**
**ў песьнях згараю...**

Гэтымі радкамі Хведар Ільяшэвіч далучае сябе, сваю паэтычную ліру да паэзіі слаўнай кагорты песняроў Бацькаўшчыны, якія жылі яе лёсам, аплаквалі і апявалі свой народ, прарочылі светлую будучыню, як маглі набліжалі яе. Яму

**Так хочацца**
**сказаць новае нешта --**
**Пусціць лявоніхай**
**ліхія рытмы --**
**Засьмяяцца нябывала**
**словам смешным --**
**Раскудлачыць разудала**
**стыль дасціпны...**

Сваё паэтычнае крэда паэт выказвае ў вершы "Я ізноў":

**У бездарожжах**
**блукацца даволі!**
**Абтрасу я з вачэй**
**цяжкі сон...**
**І ізноў загаруся на волі**
**У агні ап'яняючых дзён!**
**Годзе ў песьнях**
**туляцца нядолі,**
**Што вякамі цярпелі дзяды!**
**Выйду раннем у чыстае поле,**
**Раскідаю задор малады...**

Можна шмат цытаваць вершы гэтага таленавітага беларускага паэта, раскрываючы яго бачанне свету, любоў да Радзімы, мары чалавека, які бязмежна любіў сваю Бацькаўшчыну, свой народ. Аднак паэт толькі тады адкрые сваю душу, калі ты чытаеш яго вершы сам-насам, уваходзіш у іх глыбіню, пазнаеш філасофію жыцця, асэнсаваную аўтарам, адмятаючы тое наноснае, павярхоўнае, ад чаго не застрахаваны ні адзін творца.



Хведар ІЛЬЯШЭВІЧ (у цэнтры) з сябрамі. Германія.

Не заўсёды пастаянным было паэтычнае натхненне і ў Хведара Ільяшэвіча. У яго зборніках сустракаюцца вершы прахадныя, у якіх часта гублялася рыфма, паэт быццам спяшаўся пераказаць, выліць на паперу думкі-мроі, што перапаўнялі яго, і пасля ўжо не вяртаўся да іх, не клапаціўся аб завершанасці, дасканаласці. Вядома ж, вершы, прысвечаныя роднай Беларусі, найбольш моцныя ў мастацкіх адносінах, хвалююць чытача высокім эмацыянальным напалам, у іх разліты непадробныя глыбокія пачуцці да любай Бацькаўшчыны, адчуваецца веданне яе мінуўшчыны, гучыць вера ў лепшую долю народа.

Шмат вершаў Хведар Ільяшэвіч прысвяціў каханню, паэтызаваў прыгажосць беларускай прыроды, не раз апісваў горад, дзе прайшло дзяцінства і юнацтва, вёску, долю селяніна, захапляўся вясной, краскамі летняга поля, лесу, любіў беларускі лістапад, калі душу ахоплівалі хвіліны суму ад завядання прыроды, шчымлівай тугі і адначасна ўздыму і думалася пра сваё, уласнае, якое непазбежна супастаўлялася з жыццём блізкіх людзей, народа, лёсам Бацькаўшчыны. Да многіх вершаў паэт браў эпіграфы з М.Багдановіча, а вершы ў зборніках падзяляў па тэматычных раздзелах: "Новая Беларусь", "Места агнявокае", "Безбярэжжы каласяныя", "Песні кахання", "Напевы і думы". Ён выступаў тут паэтам-грамадзянінам і патрыётам, паэтам-барацьбітом.

З паступовым набыццём мастацкага і жыццёвага вопыту паэту быццам цесна становіцца ў малых вершаваных формах. Яго думы патрабавалі прасторы прозы. З другой паловы 30-х гадоў ён амаль цалкам пераходзіць на прозу. Ім напісаны такія апавяданні, як "Песні жыцця", "На дарогу", "У вагоне", "Сыпаліся вішнёвыя краскі", "Балёнік", "Мастацтва", "Шопат зямлі", "Сон", "Танго "Ноктурно", "Спатканне", "На рубяжы", "Худыя плечыкі", невялікія аповесці -- "На ростані" і "Вызвалілі", п'еса "У купальскую ноч". Тут, як і ў вершах, аўтар імкнецца асэнсаваць падзеі тагачаснай рэчаіснасці. Героі апавяданняў -- звычайна моладзь: юнакі, дзяўчаты, студэнты, сяляне, работнікі на выгнанні, эмігранты. Яны людзі свайго часу, іх лёс цесна звязаны з падзеямі эпохі. А падзеі набліжаліся трывожныя -- пачыналася другая сусветная вайна, якая раскідвала людзей па ўсім свеце. Мусіць таму ў прозе Хведара Ільяшэвіча найбольш выразна праглядваюцца матывы дарогі, выгнанніцкіх шляхоў. І героі большасці яго апавяданняў найчасцей выпадковыя спадарожнікі: адны з іх едуць у бежанства, другія -- з горада ў вёску, трэція -- у выгнанне. Становішча іх няпэўнае, нестабільнае, яны не ведаюць, што з імі станецца. Яны, як і сам аўтар, быццам апынуліся на перакрыжаванні многіх невядомых дарог, калясяць па свеце, знаёмяцца, сыходзяцца, размаўляюць, і гэтым вызначаецца стан іх душы, агульная перадвавальнічная атмасфера. Але, нягледзячы на трывожныя гады, людзі жылі, сеялі, жалі жыта, спявалі песні, і гэтым пісьменнік хацеў сцвердзіць неўміручасць жыцця народа.

"...Гэй, хлопцы, брацці мае, зямля беларуская раскінулася ад Горадні да места Смаленска і ад Прыпяці аж на другі бок ракі Дзвіны перакінулася. Вось, выйдзі на якую-небудзь гару, над гай зялёны, ды азірніся на свет Божы! Так душа твая і зрадзее...

І на гэтай зямлі спрадвеку нашы дзяды, прадзеды жылі,.. не раз грэкамі, немцамі, рымлянамі траслі.

**А мы! Мы не знаем,**
**хто мы такія.**
**Не марым аб**
**залатым веку..."**
*("Сон").*

Марыў Хведар Ільяшэвіч аб залатым веку, шукаў кветку шчасця для сваёй Бацькаўшчыны. Сваім жыццём і творчасцю ён сцвярджаў: "Кветка Шчасця -- гэта воля нашай дарагой Бацькаўшчыны -- Беларусі. Калі мы, маладыя, з усім сваім імпэтам, з усёй творчай сілай нашых юнацкіх душ, з усёй шчырасцю і самаадданасцю будзем працаваць для Беларусі, дык мы здабудзем кветку шчасця! А ў вольнай Беларусі мы пасеем новае маладое жыццё, і зацвіце, закрасуе наш Край!.." ("У купальскую ноч").

У яго паэзіі, прозе мы знаходзім і нацыянальна-грамадзянскія матывы, і вобразы мінуўшчыны, настраёвыя празаічныя абразкі, дзе, раскрываючы ўнутраны свет лірычнага героя, яго думкі, памкненні, аўтар раскрывае народны светапогляд, спрабуе асэнсаваць філасофскія пытанні, эстэтычныя праблемы мастацтва, прызначэнне паэта і паэзіі. Сваімі аптымістычнымі вершамі, апавяданнямі ён сцвярджаў духоўныя каштоўнасці, а выказваючы веру ў лепшую будучыню Бацькаўшчыны, падкрэсліваў вартасць літаратуры, якая павінна даваць спажытак для розуму і душы.

Хведар Ільяшэвіч быў шчырым беларусам-адраджэнцам. Ён прыспешваў сваёй творчасцю нацыянальны ўздым, ідэі Адраджэння падтрымлівалі яго незгасальны аптымізм, веру ў дабро, людзей, справядлівасць. І ў час вайны ён садзейнічаў росту беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, быў у самым яго цэнтры. Жывучы падчас вайны ў Беластоку, а пасля на эміграцыі ў Германіі, Хведар Ільяшэвіч займаўся актыўнай грамадскай дзейнасцю. Ён стварыў Беларускае Аб'яднанне ў Беластоку, выдаваў газету "Новая дарога" (ад яе пайшла сённяшняя беластоцкая "Ніва"), чым мог, дапамагаў беларусам, якіх вайна выгнала з родных мясцін, арганізаваў працу беларускіх школ на Беласточчыне. Ён лічыў, што трэба выкарыстоўваць абставіны, рабіць усё, што карыснае беларускай справе, не выпускаючы з вока галоўную мэту -- вызваленне Беларусі і адбудову сваёй нацыянальнай, незалежнай дзяржавы ў межах нашых земляў. Юры Жывіца ўспамінае, як Хведар Ільяшэвіч гаварыў: "Мы мусім паказаць усяму свету, што мы жывём, маем сілу ды змагаемся за сваю Бацькаўшчыну. Калі мы не будзем мець сваіх ідэалаў, сваёй мэты жыцця і змагання, дык сільныя раздушаць нас, як таго чарвяка на дарозе, раздушыць нас гісторыя сваім колам. Каб гэтага не сталася, мы мусім даць адпор, паказаць сваю сілу. Тады будзе меней ахвяраў, бо цяпер нас душаць маскалі, немцы, палякі -- страляюць па нас з-за вугла. Нам трэба быць арганізаванымі, бо толькі тады мы будзем мець сілу..."

Аднак выгнанніцкія дарогі ўсё далей вялі яго ад Беларусі. Апынуўшыся ў лагеры для перамешчаных асобаў у Ватэнштаце (Германія), дзе жылі пераважна беларусы-эмігранты, Хведар Ільяшэвіч быў адным з першых, хто распачаў беларускую працу: выкладаў мову і літаратуру ў беларускай гімназіі імя Янкі Купалы, шмат пісаў вершаў, апавяданняў, удзельнічаў у беларускіх грамадска-арганізацыйных з'ездах і нарадах. Заўсёды быў тактоўны, ураўнаважаны, напоўнены ідэямі. Ён выдаваў часопісы "Шляхам жыцця" і "Апошнія весткі", дзе друкаваў свае цікавыя і змястоўныя літаратуразнаўчыя артыкулы: "Нашы песьняры" (творчасць Н.Арсенневай і М.Сяднёва, якія на той час таксама знаходзіліся ў гэтым эміграцкім лагеры), "Пясьнярка барацьбы" (пра Цётку), "Пясьняр неўміручае красы" (жыццёвы і творчы шлях М.Багдановіча), "Прарок беларускага народу" (ідэя Беларускага адраджэння ў творах Янкі Купалы), "Сярод кніг" (водгук на паэму М.Сяднёва "На край святла"), артыкулы пра скаўцкі рух, актыўным удзельнікам якога ён быў сам. Усе гэтыя артыкулы друкаваліся на працягу 1946--1947 гадоў. І тут, знаходзячыся далёка ад радзімы, паэт верыў у яе і нёс свае песні людзям:

**Але песьню нясём мы адну**
**У ўраджайную**
**даль Беларусі, --**
**Песьню яснаму,**
**светламу дню,**
**што прыйсьці да нас**
**некалі мусіць..."**

На гэтай высокай ноце трагічна абарвалася жыццё Хведара Ільяшэвіча. Ён загінуў у аўтамабільнай катастрофе 6 лістапада 1948 года, якраз у той дзень, калі яму прыйшло запрашэнне ад Барыса Кіта пераехаць у Амерыку. І было гэтаму таленавітаму чалавеку, шчыраму беларусу, толькі 38 гадоў. Ён пахаваны ў Галендорфе (Германія), але жыве ў памяці сваіх дзяцей, сяброў, усіх, хто яго ведаў:

**Спі пад суровым небам,**
**Небам не родным, чужым,**
**Слёзаў няма -- не трэба.**
**Ты сярод нас -- жывы...**
*(Міхась Кавыль.*
*"Хведару Ільяшэвічу").*

Мусіць прадбачыў паэт, што не шмат гадоў яму адведзена жыць на зямлі, калі пісаў:

**Чуе сэрца, што не многа**
**Буду я на свеце жыць...**
**Хутка скончыцца дарога,**
**Засталось не шмат прайсці...**
**Я хацеў бы зноў радзіцца,**
**Зноў цярпець**
**за родны край...**
**Каб мне сонейку маліцца --**
**Не хачу у светлы рай!**
**Як памру, у сіняй ночы**
**Загарацца дзве зары --**
**Гэта будуць мае вочы**
**Сумаваці па зямлі.**

**Лідзія САВІК.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у № 50.**

## ЛЕАНІД ПРОКША



**9 снежня 1994 года на 83 годзе жыцця памёр вядомы беларускі пісьменнік Леанід Прокша.**

**Леанід Януаравіч Прокша нарадзіўся 19.4.1912 года ў г. Полацку. Скончыў Мінскі педагагічны тэхнікум (1931) і чатыры гады настаўнічаў у Мазырскім раёне і на рабфаку ў Барысаве. Пасля службы ў войску (1935--1937) працаваў літработнікам у газеце "Віцебскі рабочы" (1937--1940), у польскай газеце "Штандар вальносці" (Мінск, 1940--1941), рэдактарам польскай рэспубліканскай дзіцячай газеты "Піянер" (1941). У гады Вялікай Айчыннай вайны -- ваенны журналіст. У 1955 годзе скончыў Ваенна-палітычную акадэмію. З 1956 года працаваў у рэспубліканскіх часопісах, у 1969--1972 гадах -- галоўным рэдактарам газеты "Літаратура і мастацтва".**

**Узнагароджаны ордэнамі Айчыннай вайны І і двума -- ІІ ступеняў, Чырвонай Зоркі, медалямі.**

**Выступаў у друку з 1937 года.**

**Пісаў на беларускай і рускай мовах. Першы зборнік апавяданняў "Источник красоты" выдаў у 1960 годзе. Потым выйшлі з друку каля дзесяці гумарыстычных кніг, аповесці "Ці варта было жаніцца" (1968), "За Добрыцай-рэчкай" (1975), некалькі публіцыстычных кніг. Найбольшую вядомасць пісьменніку прынеслі раманы "Пакуль жывеш на свеце" (1980), "Туника Несса" (1986), "Урокі любові і нянавісці" (1990). Выйшлі аповесці для дзяцей "Мальчик в больших башмаках" (1963), "Незвычайныя прыгоды хлопчыка Бульбінкі" (1973), "Стрэлы над ярам" (1974).**

**У сваёй творчасці Леанід Прокша адгукаўся на самыя надзённыя праблемы жыцця, умела выкарыстоўваў жанры памфлета, фельетона. Яго творы служылі і доўга будуць служыць справе патрыятычнага выхавання моладзі, абуджэння ў чалавеку лепшых маральных якасцяў.**

**З жыцця пайшоў добры, чулы, спагадлівы чалавек. Побач з ім было ўтульна і надзейна.**

**Такім ён назаўсёды застанецца ў нашай памяці.**

**САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ.**

**Леанід Януаравіч ПРОКША быў першым рэдактарам газеты "Голас Радзімы" (1958--1969 гады). Ён добра вядомы нашым замежным суайчыннікам. І большасць з іх, як і калектыў "Голасу Радзімы", успомняць Леаніда Прокшу добрым словам, бо ён быў чалавекам свайго часу, але заўсёды глыбока інтэлігентным, спагадлівым і дэмакратычным.**

**"ГОЛАС РАДЗІМЫ".**

## У ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ ЛАТВІЙСКАЙ РЭСПУБЛІКІ

18 лістапада, у Дзень незалежнасці Латвійскай Рэспублікі, у Даўгаўпілсе адбыўся дабрачынны канцэрт нацыянальна-культурных таварыстваў. Спачатку ў вялікай зале Цэнтра латышскай культуры разам са шматлікімі гледачамі, сярод якіх былі кіраўнікі горада, дэпутат Саэйма, консул Расіі і іншыя паважаныя людзі, удзельнікі канцэрта ў нацыянальных касцюмах з запаленымі святочнымі свечкамі выканалі дзяржаўны гімн. Потым творчыя калектывы паказалі, на што яны здольныя. Некаторыя з іх, ужо добра вядомыя, ззялі сваім майстэрствам нават за межамі Латвіі. Гэта латышскі танцавальны ансамбль "Лайма", польскі хор "Промень", рускі фальклорны ансамбль "Русічы"... Тым больш прыемна было пасля прачытаць у мясцовай газеце "Латгалес Лайкс": "Найбольшую цікавасць выклікалі калектыў нямецкага таварыства, які мала вядомы ў горадзе, выступленне яўрэйскага таварыства, прадстаўнікоў беларускай грамады". Ад беларускага таварыства "Уздым" салістка Зінаіда Дзегцярэнка выканала беларускую народную песню "Там шэры конь бяжыць" і аўтар гэтых радкоў прачытаў свой верш "Абновы". Вельмі дарэчы тут прыйшліся падораныя Міністэрствам культуры ў час Першага з'езда беларусаў свету два беларускія нацыянальныя касцюмы.

Мясцовае тэлебачанне запісвала гэта відовішча з разлікам паказаць яго на ўсю Латвію. Аднак па тэхнічных прычынах запіс не ўдаўся, таму вырашана паўтарыць спробу ўжо ў наступнае свята 18 лістапада.

**С.ВАЛОДЗЬКА.**

Даўгаўпілс.



**Унікальную калекцыю значкоў сабраў гамяльчанін Алег Буракоў. Захапіўся ён гэтым яшчэ ў пяцідзесятыя гады, і цяпер у яго больш за 16 тысяч значкоў: гэта і прымеркаваныя да юбілеяў, і прысвечаныя космасу, і прысвечаныя гарадам былога Саюза, і спартыўныя, і мноства-мноства іншых.**

**НА ЗДЫМКУ: Алег БУРАКОЎ са сваёй калекцыяй.**
**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

## СПОРТ

ШАХМАТЫ. Блізіцца да завяршэння Сусветная алімпіяда, якая праходзіць у Маскве. Але яснасці ў турнірнай табліцы ў мужчын няма. Толькі апошнія туры выявяць пераможцу, бо разрыў паміж зборнымі Англіі, Расіі-1, Босніі і Герцагавіны, Балгарыі, Расіі-2 зусім нязначны: 0,5--1 ачко.

У жанчын сітуацыя больш ясная. Хутчэй за ўсё першае месца зоймуць грузінскія шахматысткі.

Зборныя Беларусі выступаюць таксама нядрэнна, хаця, ужо бачна, у лік прызёраў не трапяць.

БІЯТЛОН. Лідэр беларускай каманды Святлана Парамыгіна на розыгрышы Кубка свету ў Альпах заняла трэцяе месца на дыстанцыі 15 кіламетраў.

Там жа, у Аўстрыі, спаборнічалі і мужчыны. Вадзім Сашурын з Мінскай вобласці ў гонцы са стральбой на 20 кіламетраў заняў другое месца, прайграўшы італьянцу Патрыку Фаўрэ ўсяго 8 секунд.

БАТУТ. У прыгарадзе Капенгагена, невялікім гарадку Хаслеў, прайшоў чацвёрты этап Кубка свету. Удзельнічалі каманды трынаццаці краін. Зборная Беларусі заняла першае месца. На яе ліку тры залатыя і адзін сярэбраны медаль.

Найбольш вызначыліся віцябчане Галіна Лебедзева і Дзмітрый Паляруш, гамяльчанка Наталля Карпенка.

КІДАННЕ МОЛАТА. Летам гэтага года беларуская спартсменка Святлана Судак устанавіла сусветнае дасягненне -- 67 метраў 34 сантыметры. Але, як стала толькі што вядома, рэкорд не будзе зарэгістраваны Міжнароднай федэрацыяй лёгкай атлетыкі. Прычына такая: у нашай рэспубліцы няма сваёй тэст-лабараторыі на допінг.

ПЛАВАННЕ. Чацвёртае месца сярод дваццаці васьмі каманд занялі беларускія спартсмены на першынстве Сусветнай лігі па плаванню ў ластах, што прайшло ў Браціславе.

КАНЬКІ. Новы рэкорд Беларусі на дыстанцыі 5 кіламетраў устанавіў Віталь Навічэнка -- 7 мінут 3,21 секунды. Спартсмен выступаў у Германіі на першым этапе Кубка свету.

ФІГУРНАЕ КАТАННЕ. У Японіі прайшлі міжнародныя спаборніцтвы. Прыемна адзначыць, што другое месца сярод танцавальных дуэтаў занялі беларускія фігурысты Таццяна Наўка і Самвел Гезалян.

ГАНДБОЛ. Чарговы тур першынства Балтыйскай лігі прайшоў у Каўнасе. Лідэры спаборніцтваў Літва-1 і Беларусь-1 яшчэ больш павялічылі адрыў ад іншых каманд. Чарговы тур пройдзе ў студзені ў Мінску.

## ШАНОЎНАЕ СПАДАРСТВА!

**Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" падтрымлівае сувязі з калгасам, які знаходзіцца ў Маладзечанскім раёне і які раней меў назву "Шлях Леніна". Гэты калгас быў адным з фундатараў Першага з'езда беларусаў свету, на якім і ўзнікла прапанова аб змене назвы, і цяпер ён называецца "Бацькаўшчына". Мясціны, дзе знаходзіцца калгас, маюць сваю багатую гісторыю, звязаную з імёнамі выдатных дзеячаў беларускага адраджэння -- А. Уласава, Б. Тарашкевіча, С. Рак-Міхайлоўскага і інш. Кіраўніцтва "Бацькаўшчыны" ў асобе старшыні калгаса, дырэктар мясцовай школы шчыра рупяцца пра адраджэнне беларускае мовы і культуры ў сваіх мясцінах. Найперш мяркуецца стварыць краязнаўчы музей у Граніцкай школе.**

**ЗБС "Бацькаўшчына" звяртаецца да тых нашых суайчыннікаў, якія паходзяць з вёсак Радзеўцы, Гарнякі, Гранічы (Ігранічы), Сыравічы, Пяцюлі (Нова), Максімаўка, Кліманты, Загорцы, Імена (Дубкі), М. Бакшты, В. Бакшты, М. Бор, В. Бор, Бор-І, Бор-2, Бор-3, Бор-4, Бор-5, Каморнікі, што цяпер уваходзяць у Граніцкі сельсавет Маладзечанскага раёна, з просьбаю дапамагчы ствараемаму музею матэрыяламі, фотаздымкамі, успамінамі для фармавання экспазіцыі.**

**Вашых адказаў чакаем па адрасе:**
**220050, Беларусь, г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 15. ЗБС "Бацькаўшчына".**

**УПРАВА ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА".**

## ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

Родныя шукаюць **ДАНІЛІНУ** (Данілкіну) **Ганну Рыгораўну** і **СТРЫГЕЛЬСКАГА Андрэя Рыгоравіча** ці іх дзяцей. Яны нарадзіліся ў вёсцы Панічы (Слуцкі раён, Мінская вобласць), даводзяцца роднымі цёткай і дзядзькам **СТРЫГЕЛЬСКАЙ Еве Фёдараўне** (1918 года нараджэння).

З'ехалі ў ЗША да 1917 года. У 40-х гадах Даніліна Г.Р. жыла ў Чыкага (штат Ілінойс).

Калі хто-небудзь ведае пра лёс маіх родных, прашу паведаміць на адрас:

**Беларусь, Мінск, 220085,**
**пр. Ракасоўскага, д.109, кв. 66.**
**ЮРЦАВАЙ Марыне Пятроўне.**

## БЛЯСК У КЛУБАХ ДЫМУ

**(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).**

-- Нельга казаць, што ўсе набытыя за мяжой легкавушкі старыя, -- гаворыць ён. -- Але давайце прааналізуем, хто садзіцца за руль. Часцей за ўсё гэта маладыя хлопцы і дзяўчаты. Тыя, хто любіць шыкануць, перавысіць дазволеную хуткасць. А прафесійных навыкаў, практыкі няма. І як вынік -- аварыя, ды яшчэ не абыходзіцца без ахвяр.

Аўтаінспектар закрануў балючую тэму. Набыць правы на кіраванне аўтатранспартам не цяжка, калі... Калі маеш грошы. Неяк на вуліцы Мінска мяне спынілі двое і прапанавалі купіць за 300 долараў... вадзіцельскія правы. Заставалася толькі ўпісаць маё прозвішча. Адкуль гэтыя бланкі? Нехта мае да іх доступ, нескладана іх і падрабіць. Невук-вадзіцель, набыўшы такім чынам правы, не толькі на іншамарцы, але і на айчыннай машыне давядзе да бяды.

Не прыстасаваныя для хуткай язды і нашы дарогі. Яны не вытрымліваюць ніякай крытыкі. Аўтамагістраль Брэст—Масква, ці, як яе ахрысцілі ў васьмідзесятых гадах, "алімпійская траса", задумвалася як дарога N 1 у Еўропе. Прайшло ўсяго паўтара дзесятка гадоў, як яна ўступіла ў строй, а стан яе пакідае жадаць многа лепшага.

Праехаўшы па трасе, пераконваешся, што рэспубліканскае аб'яднанне "Белаўтастрада" мала хвалюецца пра стан падуладнай яму дарогі. Рамонт, што часткова вядзецца на невялікіх адрэзках, зацягваецца часам на месяцы. Дрэнна клапоцяцца аб стане магістралі і дарожныя службы. Гэта паказалі і сёлетнія першыя галалёды: то пясок не паспелі падвезці, то механізмы, што раскідаюць яго, зламаліся. А "Белаўтастрадзе" ж дзяржава адпускае немалыя сродкі на ўтрыманне трасы, многіх пабудоў і тэхнічных збудаванняў, размешчаных на ёй.

Але некалькі гадоў назад са згоды былога кіраўніцтва Міністэрства ўнутраных спраў дзве трэці збудаванняў, дзе размяшчаліся пасты ДАІ, аб'яднанне закансервавала, а многія перадало ў арэнду кааператарам, якія адкрылі ў іх кафэ. Такія адносіны здзівілі не толькі іншаземцаў, якія прывыклі да парадку на дарозе, але і айчынных аўтааматараў. На трасе павялічылася аварыйнасць, усё часцей за рулём сталі з'яўляцца п'яныя вадзіцелі.

Цяперашняе кіраўніцтва МУС вырашыла вярнуць усё на свае месца. Але "Белаўтастрада" прапаноўвае МУС пераабсталяваныя пасты ДАІ самім і аднаўляць, плаціць за іх арэндную плату, выстаўляе іншыя фінансавыя прэтэнзіі.

Тым не менш без дадатковага штата супрацоўнікаў ДАІ ўсё больш цяжка наводзіць на трасе парадак. Ды і аснашчэнне інспектараў павінна быць значна лепшым, больш сучасным. Узяць хаця б ліхачоў, што імчаць на іншамарках па трасе з хуткасцю 160--180 кіламетраў у гадзіну, ствараючы аварыйную сітуацыю. На старых жа міліцэйскіх "Жыгулях" ды "Масквічах" іх не дагоніш. А пра тое, што робяць яны шмат бяды, гавораць лічбы. Толькі на адрэзку трасы, што праходзіць па тэрыторыі Брэсцкай вобласці, за дзесяць месяцаў гэтага года ўчынена 51 дарожна-транспартнае здарэнне, загінула 24 чалавекі, паранена 47.

Ёсць пра што задумацца!

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**

**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**

**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").**



**НАШ АДРАС:**

**220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

**Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.**

**Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 51. Падпісана да друку 19. 12.1994 г.**